# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 35 (496) | ГОД X | 29 ЖНІЎНЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.


За тыдзень



УВАГА, МОЛАДЗЬ!

## У Бельску—Цэнтр прафесіянальнай адукацыі

Ваяводскі заклад абучэння «Асвета» ў Беластоку інфармуе, што пры дапамозе павятовых улад сарганізавана Павятовы цэнтр прафесіянальнай адукацыі ў Бельску Падляшскім пры Беларускім ліцэі з мэтай дапамогі ў далейшай вучобе і атрыманні прафесіі перш за ўсё для моладзі з т. зв. выжу дэмаграфічнага — выпускнікам школ пачатковых і сярэдніх — агульнаадукацыйных.

Заданнем Цэнтра — вядзенне абучэння рыхтуючага да прафесіі з наступнымі спецыяльнасцямі: электрамеханіка, гастранамічнай, гандлёвай, швейнай, манцёра аўтамабіляў, манцёра радыё і тэлевізіі — для выпускнікоў пачатковых школ.

Апрача таго для выпускнікоў сярэдніх школ будуць напрамкі наступных прафесій:

—кіраўнікоў бюро-машыністак.

— радыётэлевізійныя,

Для выпускнікоў пачатковых школ для атрымання прафесіі навука прадаўжацца будзе тры гады.

Для выпускнікоў сярэдніх школ у некаторых спецыяльнасцях навука будзе скарочана.

Прашэнні прымае і інфармуе — канцылярыя беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім.

Пасля трохгадовай навукі вучні здаюць экзамены перад Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіяй і атрымоўваюць атэстат заканчэння прафесіянальнай школы.

# Адкрыты сезам

Няпісаным, але абавязваючым правам «Нівы» сталася ўрачыста адзначаць пачатак кожнага новага школьнага года. Гэтая ўрачыстасць не толькі нашая, але і кожнага нашага вялікага і малога чытача. Гэта ўрачыстае свята настаўнікаў, бацькоў і дзяцей. Мы заўсёды з выпадку гэтага свята складаем шчырыя жаданні і адным, і другім, і трэцім спаўнення ўсяго таго, чаго кожны хоча. І адно супольнае жаданне ўсім: пяцёрак, а ўжо найменш — з дамешкай чацвёрак. Ніжэй сыйсці нікому не жадаем.

Кніжкі свае трэба шанаваць, не слініць, не мазаць. Яны на другі год як новыя павінны перайсці ў чыстыя рукі малодшага сябра і яму служыць. Кніжка, як і чалавек хоча доўга жыць, а прытым скажам сабе шчыра, хто больш, як не кніжка, варта пашаны і любві. Гэта адзінае, што ўзнімае нас у Космас, да Месяца, Марса і Сонца. Падумаць толькі: 24 літаркі алфавіта і 10 лічбавых знакаў, а розныя іх камбінацыі плюс Розум Чалавека, будуюць фабрыкі і масты, пракладаюць тунелі праз Альпы, будуюць самалёты «Ту-104» і «Ан-22», газаправоды «Дружба», выстрэльваюць тонныя ракеты, выводзяць Лявонава ў чорны ледавіты сусвет, ажыўляюць памерлае людское сэрца і робяць усё, што бачым, з чаго карыстаем, чым жывем і аб чым не заўсёды памятаем, што не заўсёды дацэньваем. А памятаць трэба, і асабліва з выпадку такога свята ўсіх, як пачатак новага школьнага года. Чму? Бо ўсё, што мы вышэй пералічылі і не пералічылі, пачынаецца ад першых няўдалых знакаў: 1 і а. Ім — нашым наймалодшым і найважнейшым юбілярам першакласнікам хочам прысвяціць тых пару слоў. Ад сваіх бесклапотных летніх гульняў яны ідуць у свет вялікі і таямнічы прагна адкрыць дзверы Ведаў, каб як настаўніца быць такой вялікай, такой мудрай. Каб на ўласнае пытанне: чаму ўвосень лісцё жаўцее, умець даць сабе і іншым адказ. Яны адкрыюць набожна першую старонку буквара і хорам скажуць за настаўніцай «а». А потым ведзеныя рукой і сэрцам настаўніцы за паўгода будуць ведаць многа: пра чорнага Бамба, пра жоўтага Лі-сін і пра свайго белага сябра Валодзьку, ці Джона ці Іогана. Гэтае першае «а» запалоніць іх, рассмакуе, дасць крылы, зачаруе.



(Працяг на стар. 2)

МІХАСЬ МАШАРА

## ПОДЫХ ВОСЕНІ

Хоць сонца грэе днём як трэба,
паклёп узводзіць не хачу,
але ў паблёклай сіні неба
я подых восені адчуў.

І зелень буйную на дрэвах,
сям-там крапула жаўцізна.
Птушыных хораў моўкнуць спевы
і сад прыціхшы не пазнаць.

Сям'ю склікае перапёлка,
крычаць у лузе дзергачы.
Нат уявіць не можна — колькі
ёсць гукаў ў жнівеньскай начы

А потым зноў наступіць ранне
пройдзе па твары халадок,
Змятае росы на світанні,
па травах свежы вецярок.

Днём зноў, як летам, сонца свеціць
і нават прыпячэ парой,
але падзьме паўночны вецер
і летні дзень ужо не той.



АДРЫНКІ, ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ.

ФОТА: В. МЛЫНЬЧЫК

